# Петрыкаўскія навіны

Газета Петрыкаўскага раённага выканаўчага камітэта і раённага Савета дэпутатаў

№ 22 (7952) ❖ Выдаецца з 1931 года

Серада, 22 сакавіка 2000 года

Цана дагаварная.


*НА КАНТРОЛІ — СТОЙЛАВАЕ ЎТРЫМАННЕ ЖЫВЁЛЫ*

## НА ЭНТУЗІЯЗМЕ

Не пашкадавалі, што ў адзін з апошніх дзён лютага зазірнулі на ферму в. Беседы калгаса "Лучыцы". Яшчэ на падыходзе да кароўніка пачулі рыканне буронак, а калі ўвайшлі ў яго, то яны яшчэ мацней выказалі сваё абурэнне няўважлівымі адносінамі да іх. Вельмі



*Перадавая даярка В.І.ПЕКАРСКАЯ.*

ужо згаладалі ў канцы зімоўкі і ў той дзень пасля абеду яшчэ не былі накормлены.

Як потым расказала адна з даярак, у апошнія тры дні ў кармушкі кароў толькі раз у суткі траплялі адходы ад сена. Пры такім кармленні не толькі будуць яны "галасіць", а і вырывацца на волю, каб хаця пашчыпаць мінулагоднюю траву, якой хапае ў ваколіцах фермы.

Гэты факт сведчыць, з якімі цяжкасцямі праходзіла зімоўка на ферме. А пачаліся яны ў самым пачатку стойлавага перыяда, калі з-за першых замаразкаў у кароўніку не аказалася вады – выйшла са строю ваданапорная вежа. А кароў тут каля 80 і напаіць іх пры мінусавой тэмпературы нялёгкая справа. Сапраўдную самаадданасць праявілі даяркі і даглядчыкі Пётр Захаравіч і Іосіф Чаус. З сякерамі ў руках яны рабілі пелькі ў лёдзе на рэчцы, куды ганялі кароў на вадапой. Усе жывёлаводы сталыя, у перадпенсійным узросце, стары, як гаворацы, закалкі. Яны разумелі, што трэба спасаць кароў, не дапусціць падзяжу. Наўрад ці маладыя жывёлаводы згадзіліся б выйсці з сякерамі на лёд.

Нельга сказаць, што каровы тут вельмі схудалыя. Не па кармах дагледжаныя, бо калектыў на ферме дружны і працавіты. Тое, што трапляпа ў кармушкі зімою, дзякуючы яму давала неблагую аддачу.

За мінулы год даярка Н.Г. Ходзька ад кожнай каровы сваёй групы надаіла ў сярэднім па 1758 кілаграмаў малака. За такі асабісты паказчык і захоўванне цялят адзначана прэміяй – атрымала два бычкі па 40 кілаграмаў.

Крыху ніжэйшы леташні надой малака ў Вольгі Пекарскай – па 1638 кілаграмаў ад каровы. І гэтая даярка будзе прэміравана такім жа "падарункам". На сябровак раўняецца Люба Малышава.

Здзівіла на ферме, што ў паўзгніўшым драўляным будынку, які побач з кароўнікам, афармлены прыстойны пакой адпачынку. Прыемна, што ў ім утульна, зімою цёпла, а самае галоўнае надзённая нагляднасць з планамі і паказчыкамі жывёлаводаў, ферм. Такое далёка не ва ўсіх гаспадарках можна заўважыць, асабліва на малых і аддаленых ад цэнтраў калгасаў і саўгасаў фермах.

Як сцвярджалі спецыялісты калгаса, жывёлаводы ў гаспадарцы працалюбівыя, адданыя даручанай справе. Трэба ж у пяць гадзін раніцы пакарміць жывёлу, а потым ў 13 і 17 гадзін, а даяркам двойчы падаіць кароў. Не іх віна, што з-за недакорміцы частка цёлак пайшла пад нож, а кармацэх запрацаваў толькі ў студзені. Цяпер жа ён не патрэбны, бо няма з чаго рыхтаваць кармавыя сумесі. Выхад толькі адзін – выгнаць статкі на пашу, бо на ёй нямала хоць сухой леташняй травы.

Успамінаюць чамусьці спецыялісты, як летась у ліпеніжніўні жывёле скармлівалі салому, замест дастаўкі на фермы зялёнай масы траў. Буйной жа рагатай жывёлы цяпер небагата – звыш 900 галоў. А быў жа час, калі на фермах налічвалася яе 4700. І для такога пагалоўя хапала кармоў на калгасных угоддзях.

Не спынена выбыццё жывёлы. Толькі ад прырэзкі яе стра-



*Цялятніца Л.І ХОДЗЬКА.*

ты летась склалі прыкладна пяць мільярдаў рублёў (у старым вылічэнні). Нездарма і зарплата ў жывёлаводаў мізерная. Самая вышэйшая ў даярак – 7-8 мільёнаў рублёў у месяц. Значыць, працуюць яны, ды і ў якіх нялёгкіх умовах, з асаблівым энтузіязмам, спасаючы гаспадарку ад банкруцтва.

На думку старшыні калгаса А.М. Роса, цяперашняя зімоўка нават крыху лягчэйшая, чым мінулагодняя. Складваюцца рэальныя прадпасылкі для таго, каб сёлетні год стаў пераломным у гаспадаранні. Ранейшы і цяперашні патэнцыял дазваляюць гэтага дабіцца.

Не аднойчы істотную дапамогу гаспадарцы аказваў начальнік райсельгасупраўлення В.К. Каляда. Як адзначылі спецыялісты, Васіль Канстанцінавіч карыстаецца ў калгасе папулярнасцю, чула адносіцца да ўзнікшых у гаспадарцы праблем, садзейнічае іх станоўчаму вырашэнню.



*Лепшыя жывёлаводы (злева на права) Г.Д. КРЫШЧУК, Н.В. НАВІЦКАЯ, загадчык фермы С.М. АЗЁМША і С.Д. БУХТАРЭВІЧ.*

**М. ТАРАСЕНКА.**

**Фота П. ЗАНКЕВІЧА.**

## УРАЧЫСТЫ СХОД

прысвечаны Дню жанчын, адбыўся напярэдадні гэтага свята ў раённым Доме культуры.

З дакладам перад прадстаўнікамі грамадскасці горада выступіла намеснік старшыні, начальнік упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама **Л.Б. Андрук.**

Павіншавалі жанчын са святам, пажадалі ім здароўя, шчасця і дабрабыту намеснік старшыні райвыканкама па гарадской гаспадарцы **У.М. Моўка,** другі сакратар райкама БПСМ **П.У. Шадура** і начальнік раённага вузла электрычнай сувязі **А.Ф. Кебец.**

Старшыня райвыканкама А.Я. Ткачэнка ўручыў групе лепшых маладых спартсменаў Петрыкаўшчыны граматы райвыканкама і грашовыя прэміі.

У святочным канцэрце ўдзельнічалі вучні і выкладчыкі Петрыкаўскай музычнай школы.

*БПСМ: РОЗДУМ ПАД СЦЯГАМ*

## ШТО НАС АБ'ЯДНОЎВАЕ?

Што сёння аб'ядноўвае маладых? Скажам, спартсменаў – магчымасць перамагаць у камандзе, аматараў музыкі – магчымасць спяваць у хоры.

А як жа тыя ідэі, што аб'ядноўвалі камсамольцаў? Імкненне працаваць для Радзімы? Абараняць яе? Выказваць разам палітычныя погляды?

Калі днямі адбыўся сход маладых работнікаў райвыканкама, рэдакцыі, мяне больш за ўсё турбавала думка, ці падзяляе сучасная моладзь, нават працуючая ў дзяржаўнай установе, ідэйныя ўстаноўкі, выказаныя на сустрэчы з сакратаром БПСМ В.У. Пілерам. Ён расказаў, што ў раённую арганізацыю БПСМ увайшло 407 чалавек, пераважна вучні, але ёсць і рабочыя саўгасаў і калгасаў.

В.У. Пілер гаварыў аб мерапрыемствах, якія праводзяцца па праграме работы з маладзёжнай арганізацыяй. Магчыма правільна, што са школьнікамі патрэбна працаваць у плане спартыўнай, забаўляльнай дзейнасці. Але я думаю, што не менш важна фарміраваць светапогляд маладых, а гэта – расказы пра наша мінулае, пра станаўленне савецкай улады на Беларусі, подзвіг народа ў час вайны. Думаю, гэта не пустая дэкларацыя, бо ўжо некаторыя пісьменнікі робяць спробу рэвізіі і выстаўляюць партызан ляснымі бандытамі. А сучаснасць успрымаецца многімі маладымі людзьмі, як арэна культу сілы, яны сцвярджаюць сябе ў грамадстве праз зброю і кулакі.

Я не супраць таго, каб моладзь у БПСМ разам збіралася весела бавіць час: спяваць, танцаваць і г.д. Але, на мой погляд, не менш важна, калі юнакі і дзяўчаты пачынаюць адчуваць сябе гаспадарамі роднай зямлі, ферм, майстэрань, поля.

Мне асабіста хацелася б сустракацца з цікавымі людзьмі з вытворчасці, людзьмі сваёй справы. На мой погляд, не менш важна, каб моладзь арыентавалася ў палітычных поглядах на жыццё. Прасцей за ўсё абурае недахоп у эканоміцы і палітыцы. А што трэба рабіць, каб жыццё стала лепей? Мусіць жа лепей працаваць, каб агульныя здабыткі дапамагалі маладым, пад сцягам БПСМ рабіць наша жыццё лепшым.

Як і ўсе ўдзельнікі сходу я напісаў заяву аб паступленні, а свае погляды выказаў у артыкуле.

**Д. БЯЛЬКО.**

## СХОД ПАЙШЧЫКАЎ

Адбыўся сход упаўнаважаных пайшчыкаў райпо. Справаздачу перад імі трымаў старшыня раённага спажывецкага таварыства У.М. Жалезка.

У спрэчках па справаздачы выступілі начальнік упраўлення кадраў аблспажыўсаюза В.В. Кавальчук, начальнік раённай падатковай інспекцыі Л.В. Такун, старшыні Грабаўскага і Капцэвіцкага сельскіх Саветаў Т.А. Казловіч і С.В. Івашчук, пайшчыкі Л.А. Хмялькова, Л.І. Аборнік, работнікі спажыўкааперацыі.

Выступаючыя адзначылі, што праўленне многае робіць у справе будаўніцтва, рэканструкцыі, умацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы ўсіх галін спажыўкааперацыі.

Як адзначыла Т.А. Казловіч, сельскія жыхары маюць вострую патрэбу ў камбікармах, жытняй муцэ, гаспадарчых таварах і прамысловай групы.Яна звярнулася з просьбай адкрыць у былым будынку сталовай вёскі Грабаў, які цяпер пустуе, кафэ-бар, каб людзям было дзе адпачыць.

С.В. Івашчук прасіў аб тым, каб райпо прадала будынак былога магазіна ў в. Капцэвічы аптэцы №95, каб там адкрыць аптэку. Пайшчыкі далі згоду і на сходзе прынята рашэнне аб продажу.

Жыхарка г.п. Капаткевічы Л.А. Хмялькова выказала ўдзячнасць старшыні праўлення райпо У.М. Жалезка за стрыманае ім слова, якое ён даў у свой час пайшчыкам вёскі Чалюшчавічы. Цяпер тут пачата будаўніцтва новага магазіна.

Сход упаўнаважаных прызнаў работу праўлення і рэвізійнай камісіі раённага спажывецкага таварыства за 1999 год здавальняючай.

На сходзе былі ўнесены змяненні ў статут райпо, якія датычаць уплаты паявых узносаў, рэарганізацыі структуры яго. Цяпер пайшчыкі будуць уплачваць паявы ўзнос у размеры 25 працэнтаў ад мінімальнай зарплаты. Яго можна выплачваць на працягу не пяці дзён, як было раней, а на працягу шасці месяцаў.

**В. МІХАЙЛАВА.**

СПОРТ СПОРТ СПОРТ

# ТАК ТРЫМАЦЬ!

З 2 па 13 лютага 2000 года адбыліся спаборніцтвы па валейболу сярод юнакоў і дзяўчат агульнаадукацыйных школ раёна.

У выніку адборачных спаборніцтваў у фінальнай частцы змагаліся каманды: СШ №1 г. Петрыкава, Капаткевіцкая, Курыціцкая, Лучыцкая, Бабуніцкая, Камаровіцкая сярэднія школы. У напружанай барацьбе вызначыліся прызёры: 1 месца – Капаткевіцкая СШ; 2-е — СШ №1; 3-е – Бабуніцкая СШ.

Па такой жа сістэме прайшлі спаборніцтвы і сярод дзяўчат. У фінальную шасцёрку ўвайшлі каманды СШ №1 і СШ №2 г. Петрыкава, Брынёўскай, Навасёлкаўскай, Капаткевіцкай і Мышанскай СШ. У выніку 1-е месца заняла каманда СШ №2, 2-е – Навасёлкаўская СШ і 3-е — СШ №1 г. Петрыкава.

З каманд-прызёраў была сфарміравана зборная каманда.

На спаборніцтвы прыехалі 10 каманд, якія былі раздзелены на 2 падгрупы. У сваёй падгрупе петрыкаўчанкі абыгралі каманды Калінкавіцкага, Мазырскага, Жлобінскага і Светлагорскага раёнаў. У фінале яны сустрэліся з вельмі моцнай камандай Гомельскага раёна, якая неаднаразова была ўдзельніцай рэспубліканскіх спаборніцтваў.

У выніку каманда з г. Петрыкава заняла ганаровае 2-е месца.

Хочацца пажадаць нашым зборным далейшых перамог на спаборніцтвах усіх узроўняў. Так трымаць, петрыкаўчане!

**Г. ПЕТРУШЭНКА,**
**дырэктар ДЮПФП.**

МИЛОСЕРДИЕ

# ПОДДЕРЖКА СИРОТАМ ВРЕМЁН ВОЙНЫ

В соответствии с поручением и указанием Совета Министров Республики Беларусь от 10 декабря 1999 года №38/534-45 и с учётом мнения Министерства социальной защиты, Госкомтруда, Гомельского облисполкома Белорусским республиканским фондом "Взаимопонимание и примирение" был изучен и проработан вопрос об изыскании возможностей оказания за счёт банковских процентов фонда единовременной благотворительной помощи детям – круглым сиротам, находившимся в период Великой Отечественной войны на оккупированной территории СССР.

Контрольным советом фонда "Взаимопонимание и примирение" решено выплату единовременной благотворительной помощи производить в размере 15 минимальных заработных плат, действующих на территории Республики Беларусь на день утверждения списка на выплату указанной помощи.

Для оформления документов гражданам необходимо обращаться в отделы социальной защиты горрайисполкомов, администраций районов г. Гомеля: местные городские и районные квалификационные комиссии республиканского фонда "Взаимопонимание и примирение".

Квалификационные карты на материальную помощь заполняются при представлении следующих документов:

паспорта,

сведений, подтверждающих потерю обоих родителей до войны или во время нахождения на оккупированной территории СССР.

В соответствии с положением о выплатах, утвержденным постановлением Кабинета Министров Республики Беларусь от 5 мая 1995 года №241, документами о потере родителей являются:

справки Госархивов, Комитета Госбезопасности, Министерств внутренних дел, обороны, управления образования, выписки из книг перемещения воспитанников детских домов, автобиографий, характеристик, анкет, составленных до 6 октября 1989 года и т.д.

При отсутствии указанных документов возможно установление вышеперечисленных обстоятельств в судебном порядке.

Необходимо представить документы, подтверждающие факт нахождения на оккупированной территории СССР во время войны.

Благотворительная помощь может быть получена в порядке наследования, если получатель умер в день или позже утверждения фондом списка на выплату. Квалификационные карты на умерших ранее не оформляются.

Заполнение документов городскими и районными квалификационными комиссиями производится с 21 февраля этого года.

Оформленные квалификационные карты по месту жительства на бывших детей-сирот городскими и районными квалификационными комиссиями направляются на утверждение областной квалификационной комиссии в Гомель и экспертной комиссии республиканского фонда "Взаимопонимание и примирение" в Минск. По завершению проверки начисленная благотворительная помощь детям-сиротам направляется из Минска в отделения "Беларусбанка" по месту жительства бывших детей-сирот. Уведомления о перечислении денег поступают на домашний адрес. Приём документов будет производиться до конца 2000 года.

Убедительная просьба обращаться в квалификационные комиссии только после полной подготовки вышеперечисленных документов.

**Римма ПРОХАЦКАЯ-ГАВРИЛЬЦЕВА,**
**секретарь областной квалификационной комиссии фонда "Взаимопонимание и примирение".**
***"Гомельская праўда"***
**17 лютага 2000 года.**

# ТЭХАГЛЯД: БУДЗЬЦЕ НАПАГАТОВЕ

У нашым раёне на 1.09.99г. у прыватным карыстанні налічвалася 3622 легкавых, 227 грузавых аўтамабіляў, 233 прычэпы і паўпрычэпы, 5627 матацыклаў розных марак.

У дзяржаўных прадпрыемствах, арганізацыях, калгасах і саўгасах, а таксама ў камерцыйных фірмах налічвалася 1679 грузавых аўтамабіляў, 278 аўтобусаў, 169 матацыклаў, 220 прычэпаў і паўпрычэпаў.

Перыядычны дзяржаўны тэхнічны агляд транспартных сродкаў будзе ажыццяўляцца з 1 студзеня па 31 снежня 2000 года, прычым, цотны год выпуску – па цотных гадах, няцотны – па няцотных.

Агляд грузавога транспарту – штогод, пасажырскіх транспартных сродкаў (аўтобусаў, легкавых аўтамабіляў – таксі, спецыяльных для перавозкі небяспечных грузаў, а таксама грузавых, абсталяваных для сістэматычнай перавозкі людзей) — два разы на год.

Перш чым накіравацца на тэхнічны агляд, машыну неабходна старанна падрыхтаваць. Транспартны сродак павінен быць чыстым, з адрэгуляванай сістэмай выхлапу адпрацаваных газаў (CO), неабходна паправіць знешнія пашкоджанні, у тым ліку лакакрасачнага покрыва, праверыць тармазную сістэму і рулявое кіраванне, светавое абсталяванне, а глыбіня пратэктараў шын павінна адпавядаць патрабаванням ПДР.

Абавязкова наяўнасць апазнавальнага знаку ВУ, які знаходзіцца ззаду транспартнага сродку справа па ходу руху.

У аўтамашыне павінны быць: медыцынская аптэчка, вогнетушыцель, знак аварыйнага прыпынку. Прычынай для паўторнага агляду могуць стаць таксама паржавеўшыя дыскі колаў.

Для афармлення вынікаў тэхагляду ўладальнікі транспартных сродкаў павінны мець:

— вадзіцельскае пасведчанне з талонам той жа катэгорыі;

— рэгістрацыйныя дакументы на транспартны сродак;

— зацверджаны належным чынам дазвол на права карыстання ці распараджэння транспартным содкам;

— страхавое пасведчанне;

— квітанцыю аб аплаце за правядзенне тэхнічнага агляду (плата ўзымаецца пры кожным паўторным аглядзе транспартных сродкаў, не прайшоўшых яго з першага разу);

— медыцынскую даведку аб годнасці да карыстання транспартнымі сродкамі.

Уладальнікі аўтамашын могуць праверыць і падрыхтаваць тэхнічны стан сваіх аўтамабіляў на СТА, якім дазволена выдача даведак аб тэхнічным стане аўтатранспарту. Даведкі, якія выдаюцца СТА на кожны транспартны сродак, які прайшоў праверку і прызнаны годным, прад'яўляюцца ў тэрмін да 30 сутак у Дзяржаўтаінспекцыю для зверкі нумарных агрэгатаў і афармлення вынікаў тэхнічнага агляду.

Тыя, хто выязджае на шашу, не прайшоўшы тэхнічнага агляду, рызыкуе не толькі штрафам у памеры да адной мінімальнай заработнай платы, але і забараненнем эксплуатацыі транспартнага сродку.

**П. БАГДАНОВІЧ,**
**старшы дзяржаўтаінспектар ДАІ РАУС.**

# ДОБРЫ УЧЫНАК

Я – старая жанчына, мне больш за 80 гадоў. Жыву з сынам – інвалідам. 17 лютага здарылася бяда: ад грубкі загарэлася пасцель сына. Ён хадзіць амаль не можа, а я была на ФАПе.

Прышла дадому, у хаце многа дыму. Я страціла прытомнасць. А ў гэты час праязджаў на веласіпедзе вучань 8 "Б" класа 9-й школы г. Мазыра Сяргей Рудаўскі. Ён убачыў дым. Хлопчык не разгубіўся. Ускочыў у хату, выцягнуў сына ў двор, а сам пабег за дапамогай.

Прыбегла Ніна Іванаўна Арцюх, якая паклікала праходзіўшага міма Васіля Мікалаевіча Цімашышына, які выбіў акно і стаў тушыць агонь. Пасняшаўся на дапамогу і Фёдар Іванавіч Арцюх.

Вялікі дзякуй вам, добрыя людзі, што выратавалі нас ад смерці. Добры ўчынак зрабіў Сярожа Рудаўскі. У знак удзячнасці яму давала падарунак, але ўзяць яго хлопчык катэгарычна адмовіўся.

Нізкі паклон усім, хто дапамагаў нам.

**М.П. КОРЖ,**
**в. Смятанічы.**

# ПАДЗЯКА

Памёр дарагі нам чалавек – муж, бацька і дзядуля Міхаіл Васільевіч Корж.

У гэты цяжкі для нас час мы не засталіся адны. На дапамогу прыйшлі чулыя, спагадлівыя людзі... Вялікі дзякуй дырэктару і намесніку Капцэвіцкага псіханеўралагічнага інтэрната В.Б. Беластоцкаму і П.А. Гаргун, начальніку лесапункта ААТ "Жыткавічлес" А.К. Сысу, дырэктару і намесніку гароднінасушыльнага завода М.М. Магамедаліеву і П.Ц. Аксёнчыку, а таксама родным, блізкім, суседзям і сябрам, якія падтрымалі нас маральна і матэрыяльна. Няхай у Вашы дзверы ніколі не пастукаецца бяда, моцнага Вам здароўя і нізкі паклон.

**Жонка, дзеці, унукі, праўнукі.**



## О КАТЕГОРИЯХ ГРАЖДАН, ГОСУДАРСТВЕННЫЕ КОМПЕНСАЦИОННЫЕ ОБЛИГАЦИИ КОТОРЫХ ПОДЛЕЖАТ ВЫКУПУ (ПОГАШЕНИЮ) В 2000 ГОДУ

Во исполнение подпункта 2.5 пункта 2 Указа Президента Республики Беларусь от 21 апреля 1998 года № 229 "О компенсации обесценения вкладов и облигаций целевого беспроцентного займа 1990 года на приобретение товаров длительного пользования (ценных бумаг)" Совет Министров Республики Беларусь постановил:

провести в 2000 году выкуп (погашение) государственных компенсационных облигаций:

у лиц, достигших на дату обращения в банк возраста 60 лет и старше;

у лиц, которые не реализовали право выкупа (погашения) государственных компенсационных облигаций в соответствии с постановлениями Совета Министров Республики Беларусь от 30 мая 1998 года № 857 и от 12 ноября 1998 года № 1740;

у наследников всех категорий граждан, государственные компенсационные облигации которых подлежат выкупу (погашению) в 1998-2000 годах согласно соответствующим постановлениям.

**Администрация Петриковского филиала АСБ "Беларусбанка".**

## ДА ЎВАГІ НАСЕЛЬНІЦТВА!

*Раённае спажывецкае таварыства закупляе ў неабмежаванай колькасці (у рублях за кілаграм):*

***моркву сталовую*** *– 100 руб.;* ***бульбу харчовую*** *– 85 руб.;* ***бульбу насенную*** *– 85 руб.;* ***часнок*** *– 450 руб.;* ***яйкі курыныя*** *(1 дзесятак) – 350 руб.*

*Разлік за здадзеную прадукцыю будзе ажыццяўляцца за наяўны і безнаяўны разлік.*

*Аб усіх парушэннях пры прыемцы сельгаспрадуктаў просім паведамляць па тэлефонах:* ***2-39-39, 2-34-36*** *(спажывецкае таварыства);* ***2-13-08, 2-36-30*** *(нарыхтоўча-вытворчае аб'яднанне).*

**ДЫРЭКЦЫЯ.**

Рэдактар І.Д.Самахвалаў.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:247940 г.Петрыкаў Гомельскай вобласці, вул. Гагарына,15. Тэлефоны: рэдактара -- 2-11-44; намесніка рэдактара -- 2-14-63; адказнага сакратара -- 2-39-63; загадчыкаў аддзелаў пісьмаў і сельскай гаспадаркі -- 2-14-63; бухгалтэрыі -- 2-33-63; рэдактара раённага радыё -- 2-17-63.

*"ПЕТРЫКАЎСКІЯ НАВІНЫ"* – газета Петриковского райисполкома и райсовета депутатов (на белорусском языке).
Газета выходзіць у сераду і суботу.
Рэгістрацыйны нумар 355.
Аб'ём - 1 друкаваны аркуш.
Індэкс 641070. Заказ 227. Тыраж 5273.

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі.

Аддрукавана ў Мазырскай гарадской друкарні афсетным спосабам.
АДРАС ДРУКАРНІ: 247760, г.Мазыр, вул.Акцябрская,12.